Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся

# АБВЕСЬНІК

Народнага Камісарыяту
АСЬВЕТЫ
Беларускае Сацыялістычнае
Савецкае Рэспублікі.

ВЫДАНЬНЕ АФІЦЫЯЛЬНАЕ.

№ 6. | ВЫХОДЗІЦЬ ПЭРЫЯДЫЧНА. Менск, пляц Волі № 23/2. ТЭЛ. 2—21. | 16 красавіка 1925 г.

## Пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Б. С. С. Р.

**Аб утварэньні пры Беларускай Кніжнай Палаце Кніжнага Менавога Фонду*).**

*6-га сьнежня 1924 г.*

Паводле пастановы Прэзыдыуму Ц. В. К. Саюзу С. С. Р. ад 3-га кастрычніка 1924 году аб памене выданьнямі, што выдаюць установы, у Саюзе С. С. Р. з урадовымі ўстановамі чужаземных дзяржаў, фармальна прызнаўшых Саюз С. С. Р., Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савет Народных Камісараў пастанаўляюць:

1. Ажыцьцяўленьне памену ад імя Б. С. С. Р. ўскладаецца на Беларускую Кніжную Палату, існуючую пры Дзяржаўнай і Унівэрсытэцкай Бібліатэцы Б. С. С. Р.

2. Чыннасьць сваю па памену выданьнямі Беларуская Кніжная Палата ўзгадняе з Бюро кніга-памену пры Камісіі Замежнае дапамогі, пры Прэзыдыуме Ц. В. К. Саюзу С. С. Р.

3. Менавы фонд Б. С. С. Р. складаецца шляхам абавязкавае дастаўкі ў Беларускую Кніжную Палату ўсімі ўрадовымі і грамадзкімі ўстановамі і арганізацыямі па 25 паасобнікаў (экзэмпляраў) усіх выданьняў, якія выдаюць установы.

4. Абавязковай дастаўцы згодна п. 3-га належаць усе выданьні, якія вышлі з 1-га студзеня 1924 г. і якія маюць выходзіць у будучыне.

5. Чужаземныя выданьні, атрыманыя на памен у парадку гэтае пастановы, уступаюць праз Кніжную Палату і Дзяржаўную і Унівэрсытэцкую Бібліатэку і залічаюцца ў яе Кніжны фонд.

6. Сьпісы паступіўшых чужаземных выданьняў у трохдзённы тэрмін апавяшчаюцца бібліотэкай усім вышэйшым урадавым установам і народным камісарыятам, і кнігі, якія лічацца па гэтых сьпісах, выдаюцца дзеля скарыстаньня ў парадку наказу, які апрацоўвае Н. К. А. Б. па згодзе з усімі зацікаўленымі установамі.

## Пастановы Народнага Камісарыяту Асьветы БССР.

**9. Аб зьліквідаваньні Навукова-Мастацкае Экспэртнае Камісіі пры Народным Камісарыяце Асьветы Б. С. С. Р.**

*(16 сакавіка 1925 г.)*

Маючы на ўвазе, што ў складзе Інстытуту Беларускае Культуры ўтворана Камісія па ахове помнікаў, старасьветчыны, мастацтва і прыроды, Народн. Камісарыят Асьветы пастанаўляе:

1) Утвораную пастановай Калегіі НКАБ ад 19 студзеня 1924 г. (Пратакол № 1, п. 15). Навукова-Мастацкую Экспэртную Камісію зьліквідаваць.

*) Гэтая пастанова агалошана ў Зборы законаў ды загадаў ураду Б. С. С. Р. за 1925 г. № 7, ст. 49.

II) Надаць Камісіі Інбелкульту па ахове помнікаў усе тыя правы, якімі карысталася Навукова-Мастацкая Экспэртная Камісія, абавязаўшы Інбелкульт кіравацца на ўсе законы і загады, што датычаць аховы помнікаў мастацтва і старасьветчыны, у тым ліку і на наказ Нав.-Мастацкай Экспэртнай Камісіі, зацьверджаны Калегіяй НКАБ 19 студзеня 1925 году (прат. № 1, п. 15).

III) Даручыць Сэкратару памянёнае Камісіі Паўлу **Харламповічу** перадаць усе справы Сэкратару Камісіі Інбелкульту па ахове помнікаў Ісаку **Сербаву** па акту, адзін экзэмпляр якога пакінуць пры справах Інбелкульту, а другі прадставіць у Н. К. А. Б.

За Народнага Камісара Асьветы БССР *Каранеўскі.*

Кіраўнік Спраў *М. Красінскі.*

**10. Аб наданьні Магілёўскаму (гарацкому) тэатру імя Народнага Камісара Асьветы Б. С. С. Р. Усевалада Ігнатоўскага.**

*(31 сакавіка 1925 г.)*

Паводле пастановы Магілёўскага (гарацкога) Савету работніцкіх і чырвонармейскіх дэпутатаў, пры ўдзеле прафэсыянальных, партыйных, камсамольскіх і чырвонаармейскіх арганізацый, якая прынята на ўрачыстым пасяджэньні Савету 31 студзеня 1924 г. з прычыны шостых угодкаў Беларускае Соцыялістычнае Савецкае Рэспублікі і дваццацёхгадовага юбілею рэвалюцыйна-культурнае дзейнасьці Усевалада Макаравіча **Ігнатоўскага**, Народны Камісарыят Асьветы пастанаўляе:

1) Надаць Магілёўскаму гарацкому Тэатру імя юбіляра, празываючы памянёны тэатр ува ўсіх выпадках: „**Магілёўскі тэатр імя Усевалада Ігнатоўскага**".

2) Прасіць Народны Камісарыят Юстыцыі аб агалашэньні гэтае пастановы ў Зборы законаў ды загадаў Раб. Сел. Ураду БССР.

За Народнага Камісара Асьветы БССР *Каранеўскі.*

Кіраўнік Спраў *М. Красінскі.*

**11. Аб наданьні Нараўлянскай Мазырскае акругі школе сялянскае моладзі імя Народнага Камісара Асьветы Б. С. С. Р. Усевалада Ігнатоўскага.**

*(31 сакавіка 1925 г.)*

Паводле пастановы, прынятай на ўрачыстым сходзе з прычыны адчыненьня Нараўлянскае школы сялянскае моладзі 21 сьнежня 1924 г., Народны Камісарыят Асьветы пастанаўляе:

1) Надаць Нараўлянскай, Мазырскае Акругі, школе сялянскай моладзі імя Народнага Камісара Асьветы БССР. Ўсевалада Ігнатоўскага, празываючы памянёную школу ў ва ўсіх выпадках: „**Нараўлянская імя Усевалада Ігнатоўскага школа сялянскае моладзі**".

2) Прасіць Народны Камісарыят Юстыцыі аб агалашэньні гэтае пастановы ў Зборы законаў ды загадаў Раб. Сел. Ураду БССР.

За Народнага Камісара Асьветы БССР *Каранеўскі.*

Кіраўнік Спраў *М. Красінскі.*

**12. Аб зацьверджаньні праекту палажэньня Навуковага Таварыства па вывучэньню Беларусі пры Горацкім Сельска-Гаспадарчым Інстытуту.**

*[8 красавіка 1925 г.]*

Народны Камісарыят Асьветы пастанаўляе:

Зацьвердзіць далучаны да гэтага праект палажэньня Навуковага Таварыства па вывучэньню Беларусі пры Горацкім Сельска-Гаспадарчым Інстытуту як часовае палажэньне.

За Народнага Камісара Асьветы *Каранеўскі.*

Кіраўнік Спраў *М. Красінскі*

Дадатак пастановы НКАБ № 12 ад 8—IV 1925 г.

**Палажэньне Навуковага Таварыства па вывучэньню Беларусі пры Горацкім С.-Г. Інстытуту.**

Навуковае Таварыства па вывучэньню Беларусі існуе пры Горы-Горацкім Сельска-Гаспадарчым Інсты-

туту як аддзяленьне Інстытуту БеларускаеКультуры,на правох яго сэкцыі.

Навуковае Т-ва мае сваею мэтаю вывучэньне Беларусі ў галінах сельскай гаспадаркі і прыроды шляхам экспэдыцыйных, лябараторных і па мажлівасьці стацыянарных досьледаў збор і вывучэньне беларускае навуковае тэрмінолёгіі, арганізацыю сельска-гаспадарчага музэю і г. д., дзеля чаго Т-ва арганізуе такія сэкцыі і камісіі:

I) Агранамічную сэкцыю.

II) Прыродазнаўчую сэкцыю.

III) Сэкцыю жыдоўскай сельскай гаспадаркі і прыродазнаўства.

IV) Камісію па зьбіраньню і вывучэньню беларускай навуковай тэрміналёгіі.

V) Бібліаграфічную камісію і

VI) Рэдакцыйную камісію.

Агранамічная Сэкцыя мае ў сабе падсэкцыі

1. Паляводзтва і тэхнікі яго.
2. Эканомікі, каапэрацыі і с.-г. быту.
3. Жывёлазнаўства.
4. Садоўніцтва.
5. Гародніцтва.
6. Машыназнаўства.
7. Лесаводзтва і
8. Меліярацыі і землябудаўніцтва.

Прыродазнаўчая сэкцыя:

1. Глебазнаўства і геолёгіі.
2. Батанікі.
3. Заалёгіі.
4. Хіміі.
5. Фізыкі і метэаралёгіі.

Сэкцыя жыдоўскай сельскай гаспадаркі і прыродазнаўства:

1. Расьлінназнаўства і тэхнікі жыдоўскай сельскай гаспадаркі.
2. Жывёлазнаўства.
3. Эканомікі, каапэрацыі і с.-г. быту.
4. Садоўніцтва і гародніцтва.
5. Меліярацыі і землябудаўніцтва,
6. Прыродазнаўства.

Сэкцыі і падсэкцыі абіраюць свае прэзыдыумы з 3—5 асоб.

*Увага:* Пры кожнай сэкцыі існуюць самастойныя камісіі:

1. Камісія па зьбіраньню і вывучэньню беларускай і жыдоўскай тэрмінолёгіі (навуковай).
2. Бібліяграфічная камісія.
3. Рэдакцыйная камісія.

Камісіі складаюцца з прадстаўнікоў падсэкцый—па аднаму; пленум Камісіі абірае з сябе Бюро з 3-х асоб для кіраваньня справамі.

Камісіі маюць сваёю мэтаю:

1) Зьбіраньне, вывучэньне і па мажлівасьці распрацоўку беларускай і жыдоўскай навуковай тэрмінолёгіі.

2) Складаньне бібліяграфічных очэркаў па ўсім галінам памянёных у Палажэньні навук.

3) Рэдагаваньне ўсіх навуковых прац і матар'ялаў, паступаючых у Таварыства.

*Увага.* Для канчатковай рэдакцыі і друку ўсе працы, матар'ялы і тэрміны передаюцца ў Інбелкульт.

У сваёй працы Таварыства дзержыць цесную сувязь з Інбелкультам і зьяўляецца яго падатчотнай ўстановай як у сваёй працы, так і ў расходаваньні сродкаў.

Усе сэкцыі, падсэкцыі і камісіі маюць свае пляны працы, зацьверджаныя агульным сходам сэкцыі, падсэкцыі ці камісіі і Прэзыдыумам Таварыства. Сябрамі Таварыства могуць быць усе навуковыя працаўнікі і студэнты Інстытуту, прымаючыя актыўны удзел у працы Таварыства на карысьць культурнага і эканамічнага адраджэньня Беларусі.

Агульны сход сяброў Т-ва зьяўляецца вышэйшым яго кіруючым органам (апрацоўваючым палажэньня, каштарысы, выбіраючым сяброў Т-ва і зьмяняючым і дапаўняючым палажэньня). Для агульнага кіраўніцтва справамі сход выбірае прэзыдыум Т-ва з 7 асоб.

Таварыства мае сваю пячатку і штамп.

Таварыства існуе на сродкі Інбелкульту, С. Г. Інстытуту і вольных узносаў.

Гэтае палажэньне можа зьмяняцца і дапаўняюцца па меры патрэбы агульным сходам Т-ва, пры згодзе на гэта Інбелкульту і НКАБ.

Палажэньне ўхваляецца агульным сходам Таварыства, кіраўніцтвам Інстытуту С.-Г. і Інбелкультам і заць]

вярджаецца Народным Камісарыятам Асьветы БССР.

**13. Аб арганізацыі школ на вольным паветры.**

(*8 красавіка 1925 г.*).

Народны Камісарыят Асьветы пастанаўляе:

1. Зацьвердзіць далучаны да гэтага, ўзгоднены з Народным Камісарыятам Аховы Здароўя БССР, праэкт наказу аб арганізацыі школ на вольным паветры.

2. Акруговым аддзелам Народнае Асьветы прыняць гэты наказ да выкананьня пры удзеле Акруговых Аддзелаў Аховы Здароўя.

За Народнага Камісара
Асьветы БССР *Каранеўскі*.
Кіраўнік Спраў *М. Красінскі*.

Дадатак да пастановы
НКАБ № 13 ад
6 красавіка 1925 г.

## Наказ аб арганізацыі школ на вольном паветры.

1) У мэтах папраўленьня здароўя дзяцей, фізычна аслабшых, падазроных ў пачатках сухот, з неяснымі формамі зьмяшчэньня пачатку сухот і з залознымі пачаткамі сухот, у школьную сетку трэба ўнесьці, апрача школ звычайнага тыпу, школы на вольным паветры.

2) Школа на вольным паветры мае на мэце не аддаляць дзяцей ад сямьʼі й школьнае працы, а паставіць іх у такія умовы працы, каб апошняя вялася на вольным паветры, пры добрым харчаваньні і ўжываньні санатарнага рэжыму.

3) Гэтыя школы арганізуюцца для дзяцей гарадоў і насельных пунктаў са згушчаным жыхарствам.

4) Школы на вольным паветры арганізуюцца на мясцох Акруговымі Аддзеламі Народнае Асьветы, якія ўзгодніваюць пытаньні гігіены й санаторнага рэжыму з Акруговымі Аддзеламі Аховы Здароўя.

5) Школа на вольным паветры адчыняецца й існуе на аснове палажэньня аб працоунай сямёхгадовай школе ў часьці арганізацыйнай і па выкананьню навучальных плянаў і праграм.

6) Каб захаваць цэласьць навучальных плянаў і праграм, школа адчыняецца і існуе па школьных паўгодках—з верасьня па люты і з лютага па жнівень месяцы.

7) Дабор вучняў ды ўкамплектаваньне школы робіцца Камісіяй пры Акруговым Аддзеле Народнае Асьветы ў пачатку кожных школьных паўгодкаў паводле палажэньня аб выдзяленьні дзяцей ва ўстановы аздараўленьня іх.

8) Школа на вольным паветры падпарадкавана Акруговаму Аддзелу Народнае Асьветы, які на агульных падставах дабірае й прызначае адміністрацыйных, пэдагагічных і тэхнічных працаўнікоў школы, паводле раскладу пасад, вызначаных для працоўнай школы.

9) Агульны нагляд за рэжымам і пастаноўкаю мэдычна-санітарнае працы—належыць лекару па ахове здароўя дзяцей, які прызначаецца Акруговым Аддзелам Аховы Здароўя й па раскладу пасадаў памяненага Аддзелу.

10) Акруговы Аддзел Народнае Асьветы дае пад школу адпаведны будынак у здаровай мясцовасьці, прыстасоўвае й абсталёўвае яго, згодна патрабаваньням школьнае гігіены й адпаведнага рэжыму.

11) Дзеля рэарганізацыі звычайнае школы ў школу на вольным паветры можна зрабіць наступную перэробку будынку:

а) сьцены паміж вакон у клясах замяніць скрозь шкляною сьцяною—фрамугаю, а ў крайнім выпадку зрабіць верхнія й ніжнія фрамугі ў існуючых вокнах;

б) ацяпленьне прыстасаваць такім парадкам, каб можна было цяпло клясы рэгуляваць: як мінімум 8° і максімум ад 10° да 12° па Рэомюру;

в) зрабіць і абсталяваць кухню дзеля гатаваньня гарачых сьняданьняў, а таксама сталоўку й пакой для ўмываньня.

12) Пры школе на вольным паветры павінны быць складныя ложкі з падушкамі й цеплымі коўдрамі па ліку дзяцей, для лежаньня, а так-

сама цёплая вопратка для дзяцей, у якіх яе няма (шарсьцяныя сьвіткі, шапачкі, рукавічкі, валенкі).

13) Акруговы Аддзел Народнае Асьветы бярэ на сябе забесьпячэньне школы на вольным паветры памяшканьнем, прыстасаваньне й абсталяваньне яго як мэбляй, гэтак і навучальнымі прыладамі, здавальненьне школы апалам і прыладамі для падтрыманьня чыстаты, забесьпячэньне школы адпаведнымі адміністрацыйна-пэдагагічнымі й тэхнічнымі працаўнікамі, а таксама здавальненьне школы мэдыкамэнтамі, вопраткай і прадуктамі харчаваньня вучняў.

14) Школа на вольным паветры вядзе сваю працу па навучальных плянах і праграмах Сацвыху, у складзе ўсіх груп сямёхгодкі ці у складзе толькі некаторых груп гэтай школы, у залежанасьці ад мясцовых умоў.

15) Прыкладны распарадак для школы на вольным паветры ўстанаўляецца наступны:

а) $8^3/_4$—9 гадз.—прыход дзяцей у школу, разьдзяваньне і ўмываньне іх;

б) 9—$9^1/_2$ гадз.—гарбата з хлебам і маслам;

в) $9^1/_2$—$12^1/_2$ гадз.—школьныя заняткі, экскурсіі;

г) $12^1/_2$—13 гадз.—абед з двох патраў;

д) 13—14 гадз.—ляжаньне;

е) 14—16 гадз.—прагулкі, фізычнае практыкаваньне й клюбныя заняткі;

ж) 16—$16^1/_2$ гадз.—малако з хлебам;

з) $16^1/_2$—17 гадз.—пераадзяваньне і выхад дзяцей.

16) У школе на вольным паветры заняткі робяцца па магчымасьці на вольным паветры, увосень і ўзімку з адчыненымі фрамугамі пры цяпле 8—$12^0$. Узімку дзеці павінны быць цёпла ды выгадна апрануты.

17) Школа на вольным паветры павінна быць школаю, у якой час заняткаў павялічаны. Абавязкова павінны быць гарачыя сьнеданьні.

18) Па сканчэньні курсу лячэньня, дзеці варочаюцца ў свае школы, з якіх яны былі прысланы, дзеля далейшае адукацыі.

За Загадчыка
Галоўсацвыху **Папова**.
Кіраўнік Спраў **М. Красінскі**.

---

# Загады Народнага Камісарыяту Асьветы.

(*За тэрмін з 14 сакавіка па 10 красавіка 1925 году*).

**Па Кіраўніцтву Спраў.**

І. Маючы на ўвазе, што паводле п. 7 Пастановы Другое Сэсіі ЦВК БССР шостага скліку, аб практычных мерапрыемствах па правядзеньню нацыянальнае палітыкі, НКАБ павінен перавесьці свае дзелаводзтва на беларускую мову ў працягу аднаго году і зазначаючы, што Кіраўніцтва Спраў і Галоўсацвых, апроч Аддзелу Праўнае абароны дзяцей, перайшлі ўжо на беларускую мову, прызначаецца своечасным вызначыць весь якія апошнія тэрміны пераводу ўсяго дзелаводзтва на беларускую мову ніжэй пералічаных Галоўных Упраў і Аддзелаў НКАБ:

1) Грашова-Гаспадарчы Аддзел—15 красавіка 1925 г. (перапіска) і 1 ліпеня 1925 г. (рахункаводзтва).

2) Аддзел Праўнае Абароны дзяцей—15 травеня 1925 г.

3) Галоўпрафасьветы—1-га травеня 1925 г.

4) Галоўпалітасьветы—1-га травеня 1925 г. (агульная перапіска) і 1 чэрвеня 1925 году (перапіска па ліквідацыі няпісьменнасьці).

5) Госкіно—1 чэрвеня 1925 году.

6) Галоўліт—15 травеня 1925 г.

7) Нав.-Мэтодол. К-т—1-га травеня 1925 г.

II. У час да вызначаных тэрмінаў павінен адбывацца паступовы пераход на беларускую мову, ў першую

чаргу ў перапісцы з Акр. АНА, затым з безпасярэдна падпарадкаванымі НКАБ ўстановамі, урэшце з усімі іншымі інстытуцыямі.

III. Загадчыкі Ўпраў і Аддзелаў павінны безадкладна паклапаціцца аб апрацоўцы, у разе патрэбы, неабходнае тэрмінолёгіі, перакладзе на беларускую мову ўжываемых у дзелаводзтве і рахункаводзтве ведамасьцяй, блянкаў і да г. п., узгодніўшы апрацаваную тэрмінолёгію і пераклады з Кіраўніцтвам Спраў.

*(№ 91, §§ 1-3. 17—3, 1925 г.)*

---

I. Дзеля дакладнага азнаямленьня са станам і дасягненьнямі ў працы Беларускае Драматычнае Студыі ў Маскве і яе Жыдоўскае Сэкцыі ўтвараецца Камісія ў складзе запраўдных членаў Інстытуту Беларускае Культуры Льва **Мышкоўскага** (Старшыня), Язэпа **Дылы** і рэжысэра Беларускага Дзяржаўнага Тэатру Аўсьціг нэя **Міровича**.

II Абавязаць Камісію самым дэтальным чынам азнаёміцца з усімі галінамі жыцьця і працы студыі, дзеля чаго Камісія мае права: быць прысутнай на ўсіх занятках студыйцаў, прапанаваць аб паказаньні п'ес як ужо падрыхтаваных, так і тых, якія яшчэ ў працы, прапанаваць пасобным студыйцам выкананьне драматычных нарысаў (этюдаў), атрымліваць у дырэктара студыі і кіраўніка жыдоўскае сэкцыі, а таксама ў настаўнікаў паясьненьняў, агульнаінфармацыйных дакладаў і плянаў на будучыню, апытываць студыйцаў з боку іх падрыхтованасьці, прапануйчы ім запоўніць анкеты і даваць паясьненьні на словах, запрашаць знаўцаў і спэцыялістаў тэатру дзеля азнаямленьня са студыяй і атрыманьня патрэбных заключэньняў.

III. Час. сп. абавязкі дырэктара студіі Аляксандру Ляжневічу, Кіраўніку жыдоўскае яе сэкцыі Міхалу Рафальскаму і ўсяму пэдагагічнаму ды тэхнічнаму складу ўсімі спосабамі дапамагаць Камісіі у яе працы, зьмяняючы звычайны расклад заняткаў, калі Камісія знойдзе гэта патрэбным.

IV. Камісіі выехаць у Маскву безадкладна, і скончыць працу да 7 красавіка, зрабіўшы затым дэтальны даклад.

*(№ 101, §§ 1—4. 28—3 1925 г.)*

---

Інспэктар Сацвыху Менскага Акруговага Аддзелу Народнае Асьветы **Жураўскі** Сьцяпан прызначаецца прадстаўніком ад НКАБ у Мэтрычную Камісію пры Эканамічнай Нарадзе Беларусі.

*(№ 103, § 1. 28—III 1925 г.).*

---

I Дзеля сыстэматызацыі заканадаўчага ды асьведамляльнага матар'ялу па пытаньнях асьветы прызнаць патрэбным атрымліваць ля НКАБ наступныя выданьні у такім ліку экзэмпляраў:

1) „Збор законаў ды загадаў раб. сел. ураду СССР" (1 экз. на белар. мове і 1—на расейск.). . . . . 2

Перахоўваюцца ў Кіраўніцтве Спраў

2) „Збор законаў ды загадаў раб.-сел. ураду БССР" аддз. I. . . . 3

2 экз. перахоўваюцца ў Кіраўніцтве Спраў, а адзін перадаецца ў бібліатэку НКАБ.

3) „Збор законаў ды загадаў раб.-сел. ураду БССР". аддз. II. . . 1

Перахоўваюцца ў Кіраўн. Спраў.

4) „Еженедельник Нар. Комиссариата Просвещ. РСФСР" . . . . 5

Передаюцца па аднаму экз.: Кіраўніцтву Спраў, у Бібліатэку Галоўсацвыху, Галоўпрафасьветы і Галоўпалітасьветы.

5) „Бюллетень Центр. Управления по просвещению на транспорте"...

Перадаюцца па 1 экз.: Кіраўніцтву Спраў і ў Бібліатэку.

6) Газэты: „Известия ЦИК СССР", „Звезда" і „Сав. Беларусь" па 1 экз.

Перахоўваецца ў Кіраўніцтве Спраў.

7) „Известия НКТ СССР".

Перахоўваюцца ў Кіраўніцтве Спраў.

II. Прызнаць неабходным, каб Акруговыя АНА выпісвалі за свой кошт па аднаму экзэмпляру „Збору законаў ды загадаў ураду БССР“.

III Пералічаныя ў папярэдніх разьдзелах выданьні павінны падшывацца ў спэцыяльныя папкі, а ў канцы году—апраўляцца ў вокладку, прычым дбаньне аб тым, каб былі ўсе нумары, і захаваньне матар'ялаў у належным парадку ўскладаецца ў Кіраўніцтве Спраў на Статыстыка-інфарматара Уладзіміра **Левановіча**, а ў іншых управах НКАБ і Акрана на сэкратароў апошніх.

IV. Матар'ялы, якія перахоўваюцца толькі ў Кіраўніцтве Спраў, павінны выдавацца ў разе патрэбы на часовае карыстаньне сэкратаром Галоўных Управаў, Нацыянальных Бюро і Аддзелаў НКАБ, ці выдаюцца па просьбе іх належныя спраўкі.

V. Апроч памянёных матар'яляў, у кожнай Управе, Бюро, Аддзеле НКАБ, а таксама і ў Акрана павінны перахоўвацца ўсе нумары „Абвесьніку НКАБ“ прынамсі ў адным экзэмпляры.

*(№ 105 §§ 1—5, 28-III, 1925 г.)*

---

Часовым прадстаўніком у Цэнтральную Камісію па правядзеньню „дню лесу“ прызначаецца Дзелавод Галоўсацвыху Паўла **Біндзюк**.

*(№ 109 § 1. 3-IV, 1925 г.).*

Абвяшчаецца склад прадстаўнікоў у Расцэначна-Канфліктную Камісію, зацьверджаных Саюзам Працаўнікоў Асьветы ад 18 сакавіка 1925 году.

У РКК дэфэктыўных устаноў: ад школы Сьляпых **Пісарчык** Аўгеньня

„ „ Глуханямых **Маронка** Пелагея.

У РКК Пэдаг. Тэхнікумаў: ад Беларускага—**Пяткевіч** Васіль, ад Польскага **Сэпраўскі** Тамаш, ад Жыдоўскага **Шавель** Абрам (кандыдат).

У РКК Прафтэхнічных Школ: **Бурдзейка** Андрэй і **Гусява** Сахвея.

*(№ 111, § 1. 3-VI 1925 г.).*

*I.* Абвяшчаецца вымаўленьне ніжэйпаказаным Загадчыкам культурна-асьветных устаноў:

Час. сп. аб. Дырэктара Беларускай Драматычнай Студыі Аляксандру **Ляжневічу**,

Загадчыку Жыдоўскае Сэкцыі Беларускай Драматычнай Студыі Міхалу **Рафальскаму**,

Дырэктару Віцебскага Электра-Мэханічнага Тэхнікуму Самуілу **Фрыдману**,

Дырэктару Віцебскага Мастацкага Тэхнікуму Міхалу **Керзіну**,

Загадчыку Школы сялянскай моладзі ў Курасоўшчыне **Бейнфэсту**,

Загадчыку Менскае Школы будаўнікоў Пінхасу **Шлосбергу**,—за невыкананьне да тэрміну абежніку за № 6, ад 5 сакавіка 1925 г., аб дастаўленьні вестак аб раскладу пасад на 1925-26 г., падпарадкаваных ім устаноў.

II. Бабруйскаму, Магілеўскаму, Калінінскаму і Мазырскаму Акруговым АНА выставіць на увагу, што ня далі вестак па памянёнаму абежніку па прафтэхнічных школах.

*(№ 112, §§ 1-2, 3-IV, 1925 г.).*

---

## Па Грашова Гаспадарчаму Аддзелу.

Паводле пастановы СНКБ—пратак. № 61, п. 915—вызначыць дадатковую стыпэндыю Вышэйшым Беларускім Курсам на 3 месяцы для 60 слухачоў па 5 руб. штомесяц.

*(№ 95. 19—III, 1925 г.).*

I. Паводле пастановы камісіі па раскладу пасадаў пры Народным Камісарыяце Работніцка-Сялянскае Інспэкцыі ад 6 сакавіка 1925 г., пратак. № 2, павялічыць расклад пасад Менскага музычнага тэхнікуму на два настаўніцкіх аклада.

II. Паводле пастановы камісіі па раскладу пасадаў пры Народным Камісарыяце Работніцка-Сялянскае Інспэк-

цыі ад 6 сакавіка 1925 г., пратак. № 2, павялічыць расклад пасад Менскае школы Абутнікаў на адзін настаўніцкі аклад (палова акладу інструктара і палова акладу настаўніка).

(*№ 98, §§ 1-2. 23—III, 1925 г.*).

Стварыць пры НКАБ Нараду па складаньню буджэту на 1925-26 год у складзе:

Старшыні Нарады—**Баліцкага** Антона, ягонага намесьніка—**Каранеўскага** Язэпа.

Сяброў Нарады—**Эвенчыка** Маркі, **Усьпенскага** Аўгена, **Даўгаполава** Хвёдара, **Паповай** Любові, пры

Сэкратары—**Івашкевіч** Зінаідзе.

Нарадзе распачаць працу безадкладна.

(*№ 113, § 1, 4—IV, 1925 г.*).

Лектаром вышэйшых Курсаў Беларусазнаўства з 1 студзеня 1925 г. прызначаецца заробак у разьмеры васьмёхдзесяцёх рублёў, а настаўнікам практычных заняткаў—сямёхдзесяцёх рублёў, штомесяц за адзін камплект.

(*№ 115, § 1. 8—IV, 1925 г.*).

## Па Галоўсацвыху.

I. Загадчык атрадаў маладых піянэраў ім. ЛЕНІНА **Штейн** Ільля аслабаняецца ад займаемай пасады з 1 сакавіка 1925 г. з прычыны выезду з Менску.

II. Загадчыкам атрадаў маладых піянэраў ім. ЛЕНІНА прызначаецца **Шабашоў** Сымон з 1 сакавіка 1925 г.

(*№ 97. §§ 1—2. 23—III, 1925 г.*).

I. Гал. Інспэктар Дзіцячых дамоў і дэфэктыўных установ **Перабіла** Васіль аслабаняецца ад займаемай пасады, з 1-га красавіка 1925 г. згодна заявы.

II. Гал. Інспэктарам Дзіцячых дамоў і дэфэктыўных установ прызначаецца **Таубэ** Амалія з 1-га красавіка 1925 г.

(*№ 106. §§ 1—2. 31 III, 1925 г.*).

## Па Галоўпрафасьветы.

Дырэктар Магілёўскага Мэханічнага Тэхнікуму **Берлін** Барыс аслабаняецца ад займаемай пасады з 10 красавіка 1925 году згодна заявы, дзеля пераходу яго на службу па асьвеце пад загад Гомельскага Губэрнскага АНА.

Час. сп. аб. дырэктара прызначаецца Загадчык Навучальнай часткі **Загродзкі** Станіслаў з 5 красавіка.

**Берліну** здаць, а **Загродзкаму** прыняць усе справы і маёмасьць тэхнікуму.

(*№ 102 § 1. 28—III 1925 г.*).

Галоўны Інспэктар Прафтэхнічнай Асьветы **Сілін** Барыс прызначаецца прадстаўніком у камісію па жаночай працы пры Народным Камісарыяце Працы.

(*№ 117, § 3. 8—IV, 1925 г.*),

## Па Жыдоўскаму Бюро.

**Дардак** Юдэль прызначаецца інструктарам Жыдоўскага Бюро з 14 сакавіка 1925 г.

(*№ 96. § 1. 21—III, 1925 г.*).

Час. сп. абавязкі Сэкратара Жыдоўскага Бюра **Гелер** Мендэл зацьверджаецца на займаемай пасадзе.

(*№ 110. § 2. 3—IV, 1925 г.*).

# Абежнікі НКАБ.

## Па Кіраўніцтву спраў.

### Аб пячатках з Дзяржаўным гэрбам.

*А/р. АНА, ВУЗ'ам, Рабфакам, Тэхнікумам, Прафэсыянальна-Тэхнічным Школам, Вышэйшым Настаўніцкім Курсам Беларусазнаўства, Інстытуту Беларускае Культуры, Беларускаму Дзяржаўнаму Музэю і яго Аддзяленьням, Беларускай Дзяржаўнай і Унівэрсытэцкай бібліатэцы, Беларускай Дзяржаўнай Драмстудыі, Жыдоўскай сэкцыі Бел. Дзяржаўнай Драмстудыі, Савецкім партыйным школам, Вячэрнім школам для дарослых павышэнага тыпу, Школам работніцкай моладзі, Управе па справах кіно, Беларускаму Інстытуту Соцыяльнага Перавыхаваньня, Беларускай Школе Глуханямых, Школе сьляпых, Цэнтральнай дасьледчай сямёхгадовай працоўнай школе, Школам сялянскай моладзі, сямёхгадовым працоўным школам, чатырохгадовым працоўным школам, Галоўліту*

(№ 14, 25—III, 1925 г).

Паводле пастановы СНКБ ад 28/I-1922 г. (Збор Законаў ды загадаў Раб. Сел. Ураду БССР № 7, ст. 109), Народны Камісарыят Унутраных Спраў 19/III б/г. за № 3687, разаслаў Акруговым Выканаўчым Камітэтам сьпіс устаноў, якія маюць права карыстацца пячаткай з Дзяржаўным гэрбам. Па гэтаму сьпісу, па Народнаму Камісарыяту Асьветы маюць пячатку з Дзяржаўным гэрбам наступныя ўстановы:

Народны Камісарыят Асьветы,
ВУЗ'ы,
Рабфакі,
Тэхнікумы,
Прафэсыянальна-тэхнічныя школы,
Вышэйшыя настаўніцкія Курсы Беларусазнаўства,
Інстытут Беларускае Культуры,
Беларускі Дзяржаўны Музэй,
Віцебскае Аддзяленьне Беларускага Дзяржаўнага Музэю,
Магілёўскае „ „ „
Беларуская Дзяржаўная і Унівэрсытэцкая бібліатэка,
Беларуская Дзяржаўная Драматычная Студыя,
Жыдоўская Сэкцыя Беларускае Дзяржаўнае Драмстудыі,
Менская цэнтральная Савецкая Партыйная Школа,
„ Савецкая Партыйная школа 1 ст.
Віцебская „ „ „ II „
Магілёўская „ „ „ I „
Бабруйская Савецкая Партыйная школа I ст.
Вячэрняя школа дзеля дарослых павышанага тыпу,
Школа работніцкай моладзі,
Управа па справах кіно (Белгоскіно).
Беларускі Інстытут Соцыяльнага Перавыхаваньня,
Беларуская школа глуханямых,
Школа сьляпых,
Цэнтральная дасьледчая сямёхгадовая працоўная школа,
Школа сялянскай моладзі,
Сямёхгадовыя працоўныя школы,
Чатырохгадовыя працоўныя школы,
Акруговыя аддзелы народнае асьветы,
Галоўліт.

Дзеля гэтага НКАБ прапануе вышэйпамянёным установам зрабіць пячаткі з Дзяржаўным гэрбам.

За Народнага Камісара
Асьветы **Каранеўскі**
Кіраўнік Спраў **М. Красінскі**.

## Па Галоўсацвыху

### Аб парадку часткавае рээвакуацыі дзяцей з межаў БССР.

*Акруговым Аддзелам Народнае Асьветы, усім дзіцячым установам. Копія Акруговым Камісіям Дапамогі Дзецям.*

У апошні час у НКАБ сталі паступаць скаргі ад НКА РСФСР і пасобных Губэрнскіх Аддзелаў Народнае Асьветы на няправільныя дзейства некаторых загадчыкаў Акр. АНА пры рээвакуацыі ды адсылцы дзяцей са сваёй Акругі ў межы іншых саюзных рэспублік і краін.

Каб пазбавіцца на будучы час ад падобных здарэньняў, НКАБ, згодна з існуючымі на гэты прадмет распараджэньнямі на абшарах РСФСР, прапануе прыняць да няўхільнага выкананьня пры частковай рээвакуацыі ды адсылцы дзяцей з Вашае Акругі вось якія правілы:

1) Рээвакуіраваць толькі тых дзяцей, адносна якіх ёсьць пісьмовыя доказы, што бацькі ці сваякі дзяцей згодны ўзяць іх да сябе.

2) Пры адсылцы дзеці павінны быць апрануты і абуты. Ім трэба купіць білеты да станцыі прызначэньня й даць неабходную колькасьць харчоў ці грошаў на дарогу.

3) Катэгарычна забараняецца купляць дзецям білеты на праезд па чугунцы да прамежных станцый, або накіроўваць дзяцей у адрас АНА тых губэрняў, што знаходзяцца на шляху падарожы дзяцей

4) Беспрыглядныя дзеці павінны заставацца ў межах тэй Акругі, дзе яны выяўлены і могуць накіроўвацца далей толькі ў парадку 1, 2 ды 3 пунктаў гэтага абежніку.

Парушнікі гэтага абежніку будуць прыцягацца да карнай адказнасьці беспасрэдна зацікаўленымі ўстановамі з паведамленьнем аб тым НКАБ.

За Народнага Камісара
Асьветы **Каранеўскі.**

Загадчык Аддзелу Праўнае
Абароны Дзяцей **Найхіна**

Кіраўнік Спраў **М. Красінскі.**

## Аб парадку накіраваньня дзяцей у Менскія лекавыя дамы.

*Акруговым Аддзелам Народнае Асьветы, усім дзіцячым Установам. Копія Народнаму Камісарыяту Аховы Здароўя.* (*№ 18, 7-IV, 1925 г.*).

У апошнія часы ёсьць шмат выпадкаў, калі адны дзіцячыя ўстановы, як напр., Мсьціслаўскі, Полацкі ды Барысаўскі дзіцячыя дамы, не забіраюць з Менскіх дзіцячых лекавых дамоў сваіх паздараўеўшых дзяцей, а другія, як Калінінская прафшкола, дасылаюць у Менск сваіх дзяцей бяз усялякіх папярэдніх зносін з адпаведнымі ўстановамі. Выходзіць ненармальнае становішча: у лекавых дамох жывуць дзеці здаровыя, а хворыя знаходзяцца паміж здаровых і заражаюць іх. Апроч таго, дзеці, якія дасылаюцца ў Менск такім парадкам, як гэта зрабіла Калінінская прафшкола, становяцца ў бязвыхадным палажэньні, бо ня могуць быць прынятымі на лячэньне за недахопам вольных месц.

Такое становішча ненармальна і нельга яго далей цярпець, дзеля чаго НКАБ катэгарычна прапануе загадчыкам усіх акр. АНА і ўсіх дзіцячых устаноў прытрымлівацца наступнага:

Зьмяшчэньне выхаванцаў дзіцячых устаноў у існуючыя у Менску дзіцячыя лекавыя дамы (фавозны, трахаматозны, сухотны дыспансэр і інш.) павінна праходзіць праз НКА, куды неабходна накіроўваць аб гэтым просьбы. НКАБ будзе зносіцца з адпаведнымі ўстановамі і паведамляць тых, ад каго пастулілі просьбы, аб выніках, пасьля чаго толькі й можна будзе дасылаць дзяцей.

Катэгарычна забараняецца самастойна накіроўваць дзяцей у Менск у вышэйпамяненых выпадках.

За невыкананьне гэтага абежніку будуць адказываць асабіста загадчыкі Акр. АНА і дзіцячых устаноў.

За Народнага Камісара
Асьветы *Каранеўскі.*

Заг. Аддзелу Праўнае Абароны
дзяцей *Найхіна.*

Кіраўнік Спраў *М. Красінскі.*

## Аб барацьбе з псотаю недалеткамі тэлеграфных ліній.

*Акруговым Аддзелам Народнае Асьветы.* (*№ 19. 10—IV, 1925 г.*).

Паводле адносьніку Управы Заходняе Акругі Сувязі ад 14-III б. г. за № 8/21929, заўважана, што большасьць псотаў тэлеграфных ліній вынікае галоўным чынам ад сваволі недалеткаў з сумежных з лініямі селішчаў, якія сваімі неразумнымі сваволямі і гульнямі, як кіданьне і па-

паданьне ў ізалятары каменьнямі і інш., наносяць вялікую шкоду для скарбу.

Дзеля гэтага Акруговыя Аддзелы Народнае Асьветы павінны запрапанаваць школьным працаўнікам растлумачыць вучням як аб важнасьці народнай сувязі для дзяржавы, так і аб тых шкодах, якія ёй робяцца праз псоту тэлеграфных лініяў.

Нам. Наркамасьветы *Баліцкі*

Загадчык Галоўсацвыху *Каранеўскі.*

Кіраўнік Спраў *М. Красінскі*

**Аб канчатку школьных заняткаў у сямёхгадовых працоўных школах.**

*Акруговым Аддзелам Народнае Асьветы.*
*(№ 20. 10-IV, 1925 г.).*

1. У бягучым школьным годзе заняткі ў сямёхгадовых працоўных школах як у гарадох, гэтак і ў вясковых мясцовасьцях трэба скончыць да 15 чэрвеня; у паказаны тэрмін павінны ўвайсьці і калёквіумы.

2. Пытаньне аб пераводзе вучняў з групы ў групу вырашае школьная рада на аснове ведаў аб працы ў працягу году і характарыстыкі, якую даюць настаўнікі аб кожным вучню паасобку, па кожнаму прадмету курсу.

3. Пры пераводзе з групы ў групу прытрымліваецца праграмы НКАБ, а калі праца вялася па праграме ГУС'а, —дык апошняй.

4. Калёквіумы ў выпускных групах поўных сямёхгодак праводзяцца камісіямі ў складзе:

а) Прадстаўніка Акр. АНА, ці Раённага Выканаўчага Камітэту, б) загадчыка школы, в) выкладчыка прадмету і г) выкладчыка па прызначэньню школьнае рады; пажаданы прадстаўнікі ад ЛКСМБ, КПБ, саюзу працаўнікоў асьветы.

5. У аснову выпускных калёквіумаў ўваходзяць дзьве пісмовыя працы: па беларускай мове й па матэматыцы. Для працы на беларускай мове даецца вучням на выбар адна з трох тэмаў, зьмест якіх узят з літаратуры, грамадазнаўства, ці прыродазнаўства. Пісьмовая праца па матэматыцы заключаецца ў вырашэньні некалькіх канкрэтных прыкладаў па альгэбры, геомэтрыі й трыгономэтрыі, па магчымасьці прыстасаваных да мясцовага жыцьця.

*Увага:* У школах жыдоўскіх і польскіх абавязкова яшчэ трэцяя пісьмовая праца па роднай мове.

6. Апроч пісьмовае працы робяцца вусныя калёквіумы, прычым галоўная ўвага зварочваецца на высьвятленьне агульнае ступені разьвіцьця вучняў, а таксама на тыя няяснасьці, якія могуць спаткацца ў пісьмовай працы.

7. Вусныя калёквіумы робяцца па наступных цыклах:

1) Беларусазнаўства: мова, літэратура, гісторыя ў сувязі з гісторыяй рэвалюцыйнага руху й географія.

2) Расейская мова і літаратура.

3) Грамадазнаўства: гісторыя Эўропы ў сувязі з гісторыяй працы і эканамічнага быту; рэвалюцыйны рух і савецкі строй, як яго завяршэньне канстытуцыя СССР і БССР.

4. Прыродазнаўства: няжывая і жывая прырода,—з ўключэньнем элемэнтаў фізыкі, хіміі, анатоміі і фізыолёгіі чалавека; прырода й вясковая гаспадарка, прамысловасьць здабыцьця й вытворчасьць; гаспадарка Беларусі і яе прырода; мясцовыя санітарныя ўмовы; правільная пастаноўка працы.

5) Матэматыка—агульныя пытаньні па геомэтрыі, альгебры й трыгономэтрыі (на аснове пісьмовай працы параўнаць з п. 6).

8. Канчатак навучальнага году ў школах павінен быць адзначаны школьным сьвятам з агульнай пагулянкай ў поле ці ў лес з якой колечы выканаўчай праграмай (пастаноўкай пьесы, жывымі карцінамі хорам і інш.).

Да актыўнага удзелу ў гэтым сьвяце трэба прыцягнуць як мясцовыя камсамольскія і піонэрскія арганізацыі, гэтак і бацькоў вучняў. На сьвяце чытаюцца як настаўнікамі, гэтак і вучнямі (па аднаму ад групы) падрахункі школьнай працы, а таксама ўтвараюцца выстаўкі, задачай якіх зьяўляецца, галоўным чы-

нам, падвядзеньне падрахунку экскурсій, якія праведзены ў працягу году.

*Увага 1.* Паколькі сучаснае навучаньне будуецца ў значнай меры на аснове экскурсіі, НКАБ лічыць неабходным, каб у школах, у якіх па якой колечы прычыне экскурсіі ў працягу школьнага году праводзіліся не ў дастарчаючай колькасьці, правесьці іх у працягу вясновага часу, хаця-б у мэтах ілюстрацыі ўжо пройдзенага.

*Увага 2.* У дасьледчых і апорных сямёхгодках канчаючы заняткі 15-VI у адносіне да парадку сканчэньня навучальнага году і выпуску вучняў кіравацца на Абежнік № 15 ад 2 красавіка 1925 году.

Намесьнік Народнага Камісарыяту Асьветы *Баліцкі.*

Загадчык Галоўн Сацыяльн. Выхаваньня *Каранеўскі*

Кіраўнік Спраў НКАБ *М. Красінскі.*

## Па Галоўпрафасьветы.

### Аб нявыдаваньні студэнтам ільготных тарыфаў на праезд у часе вясновага адпачынку.

*ВУЗ'ам, Рабфакам, Тэхнікумам, Сав. Парт. школам Беларускай Драматычнай Студыі ў Маскве.*

*(№ 10, 19—IV, 1925 г.).*

Даводзіцца да ведама, што на вызначаны загадам НКАБ № 214, ад 16/XII—1924 г. („Абвесьнік“ № 1 стр. 8), веснавы адпачынак не павінны выдавацца студэнтам ільготныя тарыфы на праезд па чугунках ці рэках дзеля таго, што па існуючых правілах кожны студэнт мае права карыстацца ільготнымі тарыфамі толькі два разы ў школьным годзе, (узімку і ўлетку), а веснавы адпачынак вызначаны толькі на сёлетні год, як вынятак.

За Народнага Камісара Асьветы БССР *Каранеўскі.*

Кіраўнік спраў *М. Красінскі.*

### Аб прысылцы навучальнымі праф-тэхнічнымі ўстановамі пратаколаў пасяджэньняў пэдагагічнае рады ці Праўленьня на зацьвярджэньне.

*ВУЗ'ам, Рабфакам, Тэхнікумам, Беларускай Драматычнай Студыі ў Маскве, Жыдоўскай Сэкцыі Белдрамстудыі, Вышэйшым Курсам Беларусазнаўства.*

*(№ 21, 10—IV, 1925 г.).*

Некалькі разоў прапанавалася ўсім навучальным установам Галоўпрафасьветы абавязкова прадстаўляць у копіях на зацьвярджэньне Галоўпрафасьветы пратаколы пэдагагічнае рады, ці адпаведнага яму па функцыях органу.

Аднак, ня гледзячы на гэта, некаторымі навучальнымі ўстановамі такія пратаколы да гэтага часу не прадстаўляюцца, ці прадстаўляюцца з вялікім спазьненьнем, што перашкаджае нормальнай працы Галоўпрафасьветы і робіць немагчымым адпаведны кантроль з боку апошняе.

Асабліва гэта датычыцца пэдтэхнікумаў нацменшасьцяй Беларусі, Рабфакаў, Белдрамстудыі ў Маскве, ад якіх пратаколы амаль што зусім не атрыманы.

Дзеля гэтага прапануецца ў працягу тыдню па атрыманьні гэтага выслаць у Галоўпрафасьветы копіі ўсіх пратаколаў з пачатку 1924-25 навуч. году на зацьвярджэньне, паколькі яны яшчэ ня высланы. На будучы час Галоўпрафасьветы не будзе паведамляць аб зацьвярджэньні пратаколаў, але яны будуць лічыцца мэханічна зацьверджанымі, калі ў працягу аднаго тыдню па іх атрыманьні Галоўпрафасьветы не паведаміць аб іх скасаваньні.

Адначасна НКАБ зьвяртае ўвагу на тое, што ў некаторых установах пратаколы пасяджэньняў да гэтага часу вядуцца на расейскай мове, між тым як беларусізацыя пратаколаў ёсьць першая ступень да беларусізацыі ўсяго канцэлярскага апарату, прадугледжаной пастановай ЦВК БССР ад 15 ліпеня 1924 г. (Збор

законаў ды загадаў БССР за 1924 г. ст. 108).

НКАБ лічыць пераход у вядзеньні пратаколаў на беларускую мову вельмі пажаданым і неабходным у найкаротшы тэрмін.

Нам. Наркамасьветы *Балiцкі.*

Старшыня Галоўпрафасьветы *Успенскі.*

Кіраўнік спраў *М. Красінскі.*

## Па Навукова - Мэтадалёгічнаму Камітэту.

### Аб канчатку школьных заняткаў у вясковых дасьледчых і апорных школах у 1924-1925 г.

*Акруговым Аддзелам Народнае Асьветы.*

*(№ 15. 2/IV 1925 г.).*

1. Заняткі ў бягучым школьным годзе ў 4-х гадовых працоўных школах як масавых, гэтак дасьледчых і апорных, у мясцовасьцях вясковага тыпу закончыць да 15 траўня.

2. Заняткі ў школах павінны быць закончаны школьнай выстаўкай, у арганізацыі якой прымаюць удзел усе групы. Момант падвядзеньня падрахунку гадавое працы з дапамогай выстаўкі выявіцца ў тым, што ў зьмест яе павінен уваходзіць увесь той матар'ял, які характарызуе працу вучняў ў працягу году: а) пісьмовыя працы вучняў—адна з пачатку школьнага году й адна з канчатку—для кожнага вучня, б) краязнаўчы матар'ял, які зьбіраўся на экскурсіях і в) матар'ял па самападрахунку груп у працягу году—дыяграмы прысутнасьці ў школе соцыяльнага і узроснага складу, маршрутаў экскурсій, хваробнасьці, дзіцячага руху, скарыстаньня падручнікаў і іншых кніг.

3. У сувязі з падрыхтоўкай да выстаўкі, праца вучняў, якія канчаюць школу, павінна мець асобны характар: усе вучні падзяляюцца на невялічкія групы, з якіх кожнай даецца невялічкае практычнае заданьне па бягучых гаспадарчых пытаньнях мясцовага жыцьця. Гэтыя заданьні назначаюцца настаўнікам па згоднасьці з мясцовымі грамадзянскімі гаспадарчымі ўстановамі, як напрыклад, сельсаветам, камітэтам узаемнай дапамогі, каапэратывам, ячэйкай ЛКСМБ і інш. Прыкладныя заданьні: 1) пасеўны плян па зімоваму й яравому збожжу, 2) кольласьць скаціны й яе разьмеркаваньне, 3) будаўніцтва—лік новых хат, сярэдніх, благіх, патрэбны рамонт, 4) Гандлевы зварот каапэратыву за апошні м-ц, 5) праца ячэйкі ЛКСМБ, 6) хваробнасьць у мясцовасьці.

Па кожнаму заданьню зьбіраюцца й падсумоўваюцца матар'ялы, але працу гэту, па магчымасьці, трэба накіраваць так, каб вучні здалелі даць у ёй практычны ўжытак усім тым тэорэтычным ведам, якія яны атрымалі ў працягу году.

4. У адносінах агульнага абыйма ведаў як паасобных школьных груп, гэтак і вучняў, што канчаюць школу, трэба кіравацца на праграмы й навучальныя пляны НКАБ, якія агалошаны восеньню 1924 г. (гэтакім чынам, вучні, якія канчаюць школу, павінны ўладаць весткамі ў абыйме першага канцэнтру сямёхгадовай школы, г. зн. у абыйме першых 4-х гадоў навучэньня).

5. Перавод вучняў, а таксама й выдаваньне выпускных пасьведчаньняў робіцца школьным саветам, а там, дзе яго няма, камісіяй у складзе: загадчыка школы, старшыні камітэту вучняў й прадстаўніка ячэйкі ЛКСМБ. Пры высьвятленьні пытаньня аб пераводзе вучняў з групы ў групу бярэцца пад увагу як уласныя навучальныя дасягненьні вучня ў працягу году (тэхнічныя навыкі, мэханічнасьць чытаньня, пісьмоўнасьць, ліку, графікі), гэтак і ровень яго агульнага разьвіцьця.

6. Пры канчатку школьнага году да выставак прыстасоўваецца школьнае сьвята, якое замыкае школьны год. У зьмест сьвята акрамя выстаўкі і тэй ці іншыя выканаўчай праграмы (пастаноўкі п'есы, дэкламацыя, хор і інш.) уваходзяць даклады

аб гадовай працы, якія робяцца як настаўнікамі школы, гэтак і прадстаўнікамі вучняў (па аднаму ад групы). У дзень сьвята пажадана стварыць урачыстую раздачу пасьведчаньняў тым вучням, якія канчаюць школу. Пры гэтым раздача павінна мець месца ў пашыраным пасяджэньні пленуму сельсавету, з удзелам прадстаўнікоў грамадзянскіх і партыйных арганізацый і бацькоў вучняў.

За Народнага Камісара
Асьветы БССР *Караневскі.*

За старшыню Навук. Мэтодалёг.
Камітэту *Жарынаў.*

Кіраўнік Спраў *Красінскі.*

### Аб канчатку школьных заняткаў у вясковай масавай школе ў 1924-25 г.

*Акруговым Аддзелам Народнае Асьветы. Тэрмінова (№ 16, 2—IV, 1925 г.).*

I. У бягучым школьным годзе заняткі ў 4-х гадовых працоўных школах у вёсках і мясцовасьцях сялянскага тыпу скончыць да 15-га траўня.

II. Школьныя заняткі наступаючага вясеньняга сэзону павінны мець характар падрахунку матар'ялу, які прарабілі за ўвесь год. Гэты падрахунак не павінен больш-менш уносіць зьмены ў звычайныя заняткі школы.

III. Перавод вучняў з групы ў групу робіць загадчык школы на аснове працы вучня ў працягу школьнага году.

IV. Падрахунак працы вучняў выпускных груп пры сканчэньні школьнага году робіцца спосабам распрацоўкі аднэй агульнай тэмы, якая ўзята ў комплексным разрэзе. Пры гэтым у распрацоўцы, па магчымасьці, выкарыстоўваюцца ўсе тыя весткі, якія атрыманы вучнямі ў працягу году, хаця-ж і па прадметнай сыстэме выкладаньня. Так, напрыклад, тэма „Наш агарод“, „Наша вёска“, „Веснавая праца ў полі“. Да вывучэньня гэтых тэм прыцягваюцца элемэнты ўсіх выкладаных у школе прадметаў: прыродазнаўства, матэматыкі, грамадзяназнаўства, фізікі і інш. З распрацоўкай тэм раўналежна арганізуюцца, калі гэта будзе патрэбным, экскурсіі, зьбіраецца рэчовы краязнаўчы матар'ял, выконваюцца пісьмовыя працы.

V. Калёквіумы вучняў, якія канчаюць школу, робяцца камісіямі ў складзе: Загадчыка школы, настаўніка раённай сямёхгодкі й прадстаўніка ад райкультаддзелу. Таксама пажадана прысутнасьць Акр. АНА, прадстаўніка КПБ, ЛКСМБ, Саюзу працаўнікоў Асьветы, Райсавету, альбо Сельсавету.

VI. Па матывах грамадзка-пэдагагічных, а таксама і тэхнічных рэкамэндуецца аб'яднаць для выпускнога калёквіуму вучняў 2-3 бліжэйшых школ.

VII. Трэба прыняць усе меры да таго, каб калёквіум не насіў фармальнага характару. Трэба каб перш за ўсе стаўляліся пытаньні аб уменьні вучня, для разьвязаньня практычных задач, карыстацца здабытымі ў школе ведамі. У аснову калёквіуму кладзецца пісьмовая праца, зьмест якой бярэцца з матар'ялу, перапрацованага вучнямі ў канцы школьнага году (гл. п. 4).

Пісьмовая праца даецца па роднай мове й па матэматыцы, пры гэтым зьмест задачы па матэматыцы, па магчымасьці, ўзгадняецца з тэмай па роднай мове. Перад пісьмовай працай й пасьля яе павінна праводзіцца вусная гутарка. Папярэдняя гутарка важна па 3 прычынах:

1) яна, калі й не разгоніць, дык значна рушыць непраўдзівы элемэнт саромлівасьці, які дужа шкодзіць некаторым вучням слабодна выяўляць сваю індывідуальнасьць;

2) дасьць магчымасьць камісіі бліжэй падайсьці да ровеня падрыхтаванасьці й да інтарэсаў вучняў у абраньні тэмы для пісьмовай працы;

3) дасьць магчымасьць раней азнаёміцца наколькі тыя, ці іншыя вучні ўладаюць вуснай мовай. У заключнай гутарцы, якая павінна мець месца

пасьля праверкі пісьмовых прац, трэба пераважна зьвярнуць увагу як на высьвятленьне тых няяснасьцяй, якія сустракаюцца ў пісьмовых працах, гэтак і на агульную праверку падрыхтаванасьці вучняў у галіне прыродазнаўства й грамадзяназнаўства.

VIII. Вучні, якія канчаюць 4-х гадовую працоўную школу, павінны быць падрыхтованы ў абыйме мінімуму першага канцэнтру сямёхгадовай школы, г. з. першых 4-х гадоў ня навучаньня.

Канчатак навучальнага году ў школах павінен быць адзначан школьным сьвятам з агульнай прагулкай ў поле ці ў лес з якой-колечы выканаўчай праграмай (пастаноўкай п'есы, жывымі карцінамі хорам і інш.).

Да актыўнага удзелу ў гэтым сьвяце трэба далучыць як мясцовыя камсамольскія й піанэрскія арганізацыі, гэтак і бацькоў вучняў. На сьвяце чытаюцца як настаўнікамі, гэтак і вучнямі (па аднаму ад групы) падрахункі школьнай працы, а таксама ўтвараюцца выстаўкі, задачай якіх зьяўляюцца, галоўным чынам, падвядзеньне падрахунку экскурсый, якія праведзены ў працягу году. Для вучняў, якія канчаюць школу, пасьля калёквіуму можа быць утворана заключнае школьнае сьвята й яшчэ раз.

На апошнім сьвяце можна аб'яднаць некалькі школ і пры гэтым у выканаўчую праграму сьвята уводзяцца тыя №№, якія найлепей прайшлі на ранейшых школьных сьвятах. Карысным момантам гэтага заключнага сьвята зьяўляецца раздача раней загатаваных пасьведчаньняў аб скачэньні школы. Гэта раздача пасьведчаньняў адбываецца ў прысутнасьці мясцовых партыйных і грамадзкіх арганізацый.

За Народнага Камісара Асьветы БССР *Каранеўскі.*

За Старш. Навукова-Мэтодолёгічнага Камітэту *Жарынаў.*

Кіраўнік Спраў *М. Красінскі.*

## Па Жыдоўскому Бюро.

### Аб канчатку школьнага году у жыдоўскіх школах вясковага тыпу.

*Акруговым Аддзелам Народнае Асьветы* (№ *23, 14—IV, 1925 г.*)

У дадатак да абежнікаў №№ 15 і 16 ад 2 красавіка 1925 г. растлумачваецца, што ў жыдоўскіх школах вясковага тыпу, дзе няма дзяцей сялян заняткі скончыць як у сямёхгодках—15 чэрвеня.

Выяўленьне, якія з вышэйпаказаных школ павінны скончыць заняткі 15 траўня і якія 15 чэрвеня, ускладаецца на АкрАНА.

Нам. Наркамасьветы *Баліцкі*

Заг. Жыдоўскага Бюро *Мац.*

Кіраўнік Спраў *М. Красінскі.*

---

# ХРОНІКА.

— Вышаў з друку № 2—Збораў законаў ды загадаў раб.-сел. урады БССР (выданьне Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР), які зьмяшчае ў сябе канчальна спраўджаны падзел рэспублікі на акругі і раёны. Паказаны ўсе сельсаветы па раёнах і іх цэнтры.

— 8 красавіка т. Баліцкі прыехаў з камандыроўкі і прыступіў да спаўненьня абавязкаў Намесьніка Народнага Камісарыяту Асьветы БССР.

— Вучні беларусы Мізгінскае школы (Уральскі край, Цюменская акруга) зьвярнуліся з пісьмом да т. Ігнатоўскага, каб прысланць ім беларускіх кніжак, бо яны хочуць вучыцца роднай мове.

На гэта т. Ігнатоўскі паслаў такі адказ:

**Дарагія дзеткі.**

Атрымаў Ваш ліст шлю Вам прывітаньне з Вашай бацькаўшчыны. Разам з тым шлю Вам крыху кніжок у беларусскай мове. Вучыцеся і расьціце на зьмену нам. Паклон настаўніку.

Адначасна паслана поштай каля 40 беларускіх кніжок па розных галінах веды.

— ЦВК БССР камандыраваў дзеля прыняцьця ўдзелу ў акруговых з'ездах Саветаў т. Ігнатоўскага ў Полацак, а т. Баліцкага—ў Клімавічы.

— НКА РСФСР склікае на 28 красавіка б. г. нараду па высьвятленьню пытаньняў па вядзеньню асьветнае прачы сярод беларусоў і украінцоў, што жывуць у межах РСФСР. У парадку дню: даклады з месцоў, даклад Савету Нацыянальных Меншасьцяў, стан асьветы сярод беларусаў і ўкраінцаў і бліжэйшыя заданьні, тэорыя і практыка пераводу школ на родную мову; падрыхтоўка і перападрыхтоўка настаўнікаў ля беларускіх ды украінскіх школ, формы і мэтады паліт-асьветнае працы; бягучыя справы. Ад НКАБ дэлегуецца на гэтую нараду т. Каранеўскі.

— На 24 красавіка б. г. склікаецца ў Харкаве ўсесаюзны зьезд прадстаўнікоў Галоўных Упраў па навуковых установах. На зьезд камандыруюцца члены Інбелкульту т.т. Некрашэвіч, Каранеўскі і Вайнгер.

— Загадам Народнага Камісарату Асьветы зацьверджан дабраны Мастацкай Радай Белар. Дзярж. Трупы под кіраўніцтвам Галубка склад актыўна-вандроўнае часткі трупы, у ліку 20 чалавек.

Адначасна падцьверджан апрацаваны РКК. Трупы падзел працаунікоў па катэгорыях і разрадах, лічучы прынятыя стаўкі як максимум магчымага штомесячнага заробку кожнага працаўніка, які складаецца з прыбыткаў ад спэктакляў і ад падзелу паміж працаўнікамі штомесячнае урадавае дапамогі, як сталае штомесячнае часткі вызначанага праз РКК заробку:

| | | | |
|---|---|---|---|
| па 17 разраду | — (1) | — 64 р. — | |
| „ 15 „ | — (6) | — 52 р. — | |
| „ 13 „ | — (4) | — 39 р. | 20 к. |
| „ 12 „ | — (3) | — 35 р. | 20 к. |
| „ 11 „ | — (1) | — 33 р. | 60 к. |
| „ 10 „ | — (2) | — 31 р. | 80 к. |
| „ 9 „ | — (3) | — 28 р. | 80 к. |
| „ 8 „ | — (1) | — 24 р. — | |



Рэдактар—выдавец. Народны Камісарыят Асьветы Б. С. С. Р.

Главулітбел № 8731. 1-я Дзярж. друк. Зак. № 2894—1000.